


# КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

№1(137)

1 студзеня 2015 Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь


# ІРЫНУ МОЦНУЮ АСУДЗІЛІ НА ЧАТЫРЫ ГАДЫ

***19 снежня Клімавіцкі суд асудзіў былую выхавацельку Ірыну Моцную па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэксу да чатырох гадоў калоніі агульнага рэжыму. Паводле аднаго з артыкулаў, Моцная абвінавачваецца ў «злоўжыванні правамі апекуна». Падрабязнасці ў матэрыяле Радыё Свабода.***



Сын асуджанай на чатыры гады калоніі агульнага рэжыму Ірыны Моцнай Дзмітрый пацвердзіў звесткі пра зняволенне маці. Паводле яго, Ірыну ўзялі пад варту пасля агучвання выраку ў залі суду. Прысуд маці Дзмітрый лічыць несправядлівым. Кажа, што вырак будзе абскарджаны. Дзмітрый адзначае, што ў судовым працэсе былі памылкі, і не верыць у тое, што справу разглядалі аб'ектыўна:

«Маці прызначылі пакаранне па максімуме, але ж дзеці не атрымалі ніякіх траўмаў — ні маральных, ні фізічных. Калі і было нейкае парушэнне з яе боку ў выхаванні прыёмных дзяцей, то даваць за гэта чатыры гады — гэта проста жорстка. Я не ведаю, ці гэта жорсткае рашэнне наагул нашай дзяржавы, ці толькі раёну, які ўзлаваўся на маці. Калі за забойства даюць людзям такія пакаранні. Ёй не зрабілі ніякіх паблажак, нягледзячы на тое, што ў яе процьма хваробаў. Ніякай лаяльнасці да яе не было. Суд не ўлічыў, што яна была ў цяжкім эмацыйным стане, бо ў яе памёр муж. Я не ведаю, ці пераживе яна такое пакаранне», — каментуе вырак сваёй маці Дзмітрый.

Паводле Дзмітрыя, улады адпомсцілі маці за тое, што яна скардзілася на чыноўнікаў.

У дзіцячым доме сямейнага тыпу Ірыны Моцнай мелі прытулак шасцёра прыёмных дзяцей. Яна была мамай-выхавацелькай. Яе адхілілі ад працы рашэннем райвыканкаму. Ірына Моцная лічыць, што звольненая таму, што наважылася паскардзіцца ў Адміністрацыю прэзідэнта на мясцовую ўладу, якая, як заяўляе жанчына, ігнаравала просьбы дапамагчы прытулку ў вырашэнні гаспадарчых праблемаў.

У чэрвені муж Ірыны Моцнай скончыў жыццё самагубствам. Праз месяц Ірыне паведамілі, што адна з бабуляў прыёмнай дзяўчынкі напісала скаргу, што дзяўчынку б'юць у прытулку.

Паводле беларускага заканадаўства, калі памірае адзін з карміцеляў, дзіцячы дом сямейнага тыпу расфарміроўваюць. У выпадку з Моцнай у загадзе аб скасаванні з ёй працоўных адносінаў названая яшчэ адна прычына — «амаральны ўчынак, несумяшчальны з выкананнем абавязкаў выхавацелькі».

Падзеі вакол прыёмнай сям'і Моцных атрымалі шырокі грамадскі розгалас, калі ў справу ўмяшаліся міліцыянты. 25 ліпеня Ірыну, яе непаўналетняга прыёмнага гадаванца Аляксандра, а таксама роднага сына Віталя, на якога надзелі кайданкі, ды дачку Наталлю затрымалі супрацоўнікі міліцыі на зварот аддзелу адукацыі. Паводле звароту, як высветлілася ў судзе, прыёмных дзяцей Ірына Моцная нібыта збіралася вывезці за межы Беларусі.

У міліцыі затрыманыя прабылі больш за дзесяць гадзінаў. За гэты час прыёмных дзяцей і забралі з расфармаванага прытулку. На саму ж Моцную склалі пратакол адміністрацыйнага правапарушэння за незаконнае ўтрыманне прыёмных дзяцей.

Раней Ірына Моцная ўжо прыцягвалася да адміністрацыйнай адказнасці — на зварот з аддзелу адукацыі.



# «У МЕНЯ НЕТ СЛОВ, КАК НАЗВАТЬ ЭТОТ ДЕКРЕТ»

**Татьяна ГУСЕВА, Салідарнасць**

***Юрист профсоюза радиоэлектронной промышленности Жанна Заприварина шокирована новым декретом Лукашенко. По её мнению, разработчики документа видели в работниках не людей, а рабов. К каким последствиям может привести применение декрета № 5, который вступает в силу с нового года — выясняла «Салідарнасць».***




Александр Лукашенко 15 декабря подписал декрет №5 «Об усилении требований к руководящим кадрам и работникам организаций».

Как сообщили в пресс-службе главы Беларуси, документ направлен на искоренение бесхозяйственности, укрепление производственно-технологической, трудовой и исполнительской дисциплины, а также пресечение фактов трудоустройства недобросовестных руководителей на новую руководящую должность.

Ознакомившись с новым декретом Лукашенко, главный правовой инспектор Белорусского профсоюза РЭП Жанна Запривaрина с трудом подбирает слова, чтобы его охарактеризовать:

— Это даже не крепостное право, не рабство. Это тюрьма!

По мнению юриста, работники белорусских предприятий и организаций всех форм собственности станут бесправнее в 10 раз.

— Во-первых, декрет будет способствовать массовым невыплатам премий работникам якобы за допущенные ими нарушения.

Во-вторых, если раньше об изменении существенных условий труда работника уведомляли за месяц, то теперь наниматель будет делать это за неделю. Например, за 7 календарных дней работника поставят в известность, что у него уменьшится зарплата, или теперь он будет работать по 12 часов в связи с производственной необходимостью.

В-третьих, наниматель может лишить премии на срок до 12 месяцев, отстранять работника от работы в случае нарушений, которые способны повлечь причинение организации ущерба.

В-четвертых, руководитель получит право увольнять работников, допустивших нарушение дисциплины, повлекшее причинение организации ущерба в размере, превышающем три среднемесячные зарплаты по стране. Сегодня Трудовой кодекс говорит только об одной среднемесячной зарплате на удержание по распоряжению нанимателя.

В-пятых, этот декрет дает нанимателям беспрецедентные меры, которые могут применять к работникам за нарушение технологической дисциплины. Этот декрет поясняет, что под производственно-технологической дисциплиной понимается соблюдение установленных технологических регламентов. Но сегодня работник может, сам того не желая, нарушить этот регламент, и за это его могут привлечь к ответственности.

Кроме того, декретом предусмотрено, что со стороны нанимателя признается грубым нарушением, влекущим безусловное привлечение руководителя организации к ответственности вплоть до увольнения. Это сокрытие (подмена) основания увольнения работника по причинам и при наличии оснований для его увольнения за совершение виновных действий.

Допустим, работник опоздал несколько раз, наниматель привлек его к дисциплинарной ответственности, но не уволил. Со вступлением этого декрета в силу наниматель за сокрытие такого увольнения несет ответственность. Теперь наниматель и работник не смогут договориться на увольнение по соглашению сторон. Наниматель обязан будет уволить работника за виновные действия.

— Приведет ли это к массовым увольнениям?

— С одной стороны, в Беларуси существует контрактная форма найма, при которой работник не имеет права по своему желанию уволиться. С другой стороны, заработает декрет №5. Работника зажимают в тиски со всех сторон, и он не может никуда с этого места уйти. Даже если ему уменьшат зарплату до минимума, он обязан там работать.

Декрет может привести к массовым увольнениям за виновные действия по дискредитирующим обстоятельствам. В соответствии с документом работник, занимавший должность, например, начальника отдела, после увольнения не сможет самостоятельно в течение пяти лет устроиться на новое место работы.

— Получается, власти, объявившие борьбу тунеядству, толкают человека в объятия безработицы?

— А если он будет занесен в разряд тунеядцев (этот законопроект сейчас широко обсуждается), то государство его обяжет бесплатно на него работать. Беспрецедентные случаи привлечения к принудительным работам могут приобрести массовый характер.

Собеседница «Салідарнасці» считает, что сегодня в Беларуси достаточно мер ответственности и способов привлечения работника к ответственности посредством норм Трудового кодекса.

По мнению собеседницы, уже сейчас нужно принимать незамедлительные меры и не допустить, чтобы этот декрет заработал.

— Документ вступает в силу с 1 января 2015-го года. Осталось совсем мало времени.

# ДВОЙЧЫ ВЫКІНУЎ СМЕЦЦЕ З ВАКНА МАШЫНЫ — РЫХТУЙСЯ ДА КАНФІСКАЦЫІ

**Уладзімір ГЛОД, Радыё Свабода**

***Ва ўладальніка аўтамабіля могуць канфіскаваць ягоную машыну, калі ён двойчы выкіне смецце праз вакно свайго транспартнага сродку.***

Такая норма, закладзеная ў законапраект аб змяненнях і дапаўненнях да Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях. Адпаведны дакумент падрыхтавалі спецыялісты Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Пра гэта Свабодзе паведаміла прэсавы сакратар міністэрства Таццяна Еўдасёва.

Яна адзначыла, што цяпер за выкідванне смецця з аўто ягонага ўладальніка могуць аштрафаваць усяго на адну-дзве базавыя велічыні. Міністэрства прапануе пашырыць дыяпазон штрафу ад 10 да 20 велічынь. Калі ж такое парушэнне будзе зафіксавана паўторна, то сума штрафу павялічваецца ад 30 да 100 базавых велічынь. А калі смецце паўторна выкінуць праз вакно машыны, то прадугледжваецца яе канфіскацыя.

«Некаторыя аўтаўладальнікі, магчыма, назавуць такія захады „драконаўскімі“. Але ж колькі можна цярпець, бачачы, як некаторыя людзі выкідваюць усялякую дрэнь на ходу з свайго аўто, — гаворыць Таццяна Еўдасёва. — Канечне, усе хвалююцца за свае транспартныя сродкі. Але калі людзі выязджаюць у лес на шашлыкі, то чамусьці многія не думаюць пра тое, што смецце, якое яны там пакідаюць, наносіць шкоду навакольнаму асяроддзю. А колькі можна абыякава глядзець, як кіроўца спыняе машыну на ўзбочыне, адчыняе дзверы і выкідвае недапалкі, фанцікі ды іншае смецце. І пасля спакойна едзе далей.

У нас параўнальна з іншымі краінамі вельмі невялікія штрафы. Мы аналізавалі замежны досвед і бачым, што там пакаранні, напрыклад, за парушэнне паасобнага збору смецця вельмі высокія. А нашы людзі, як скідвалі смецце ў адзін мех, так і скідваюць. Апошнім часам у Беларусі будуюць шмат сучасных заводаў па перапрацоўцы адкідаў. І там вельмі важна, каб смецце паступала паасобна.

Мы плацім вельмі невялікі падатак за вываз смецця. Можа таму так лёгка да гэтага і ставімся?»

Законапраект прадугледжвае павелічэнне пакаранняў не толькі за выкідванне смецця з аўто. Яшчэ адзін артыкул тычыцца забруджвання прыбярэжных водных палосаў і лесу.

Юрыдычная працэдура выглядае так. Найперш Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя перадае праз Савет Міністраў свае прапановы ў выглядзе законапраекту аб змяненнях і дапаўненнях да Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях у Палату прадстаўнікоў. Разгляд гэтага дакументу плануецца ў 2015 годзе. Дэпутаты праз галасаванне альбо прымаюць, альбо адхіляюць законапраект. Першая сесія Палаты прадстаўнікоў штогод традыцыйна пачынаецца 2 красавіка.




## ДАРЭЧЫ:

### ПАДАТАК НА АЎТАМАБІЛІ Ў БЕЛАРУСІ ПАВЫСЯЦЬ НА 150-300 ТЫСЯЧ

Знізіцца ён толькі для пенсіянераў, паведаміла напрыканцы мінулага года Еўрарадыё.

Падатак на аўтамабілі ў Беларусі для пенсіянераў знізяць удвая. Пра гэта ў Палаце прадстаўнікоў паведаміў намеснік міністра фінансаў Дзмітрый Кійко.

Для ўсіх астатніх ён павялічыцца на 1-2 базавыя велічыні (на сённяшні дзень гэта 150-300 тысяч рублёў). Цяпер за легкавы аўтамабіль трэба плаціць ад 3 да 10 базавых велічынь на год (ад 450 тысяч да 3 млн рублёў), інфармуе газета "Комсомольская правда в Белоруссии".

## *НОВОСТИ РЕГИОНА*

### С МОРОЗОМ НЕ ШУТЯТ!

***Несмотря на плюсовую температуру в декабрьские дни, по календарю у нас всё-таки зима. И зимние морозы представляют опасность даже при такой погоде. В первой половине декабря в Климовичах доставили в районную больницу молодого мужчину с диагнозом «переохлаждение». По информации «Радио Могилёв» за последнее время на территории области зафиксированы случаи обморожения, также несколько человек умерли на улице от переохлаждения.***

### ПРИЕДУТ К ПЕНСИОНЕРАМ

***Соцработники Могилёвской области пересаживаются на электровелосипеды. Об этом телезрителям рассказали в новостях ОНТ. Центры соцобслуживания четырёх районов, включая Климовичский, получили велосипеды с электроподдержкой. Техникой будут пользоваться те, кто обслуживает пенсионеров на дому. Двухколёсный транспорт облегчит труд соцработников, сократив время, проводимое ими в пути.***



# КАРУПЦЫЯ: МЯСЦОВЫЯ АСАБЛІВАСЦІ

**Пётр МІГУРСКІ**

***У апошні час барацьба з карупцыяй ў Беларусі разгарнулась аж на два франты: на рэспубліканскім узроўні, дзе бушуюць жарсці не жартоўных памераў, і мясцовым, з рознымі хітрыкамі ў адносінах да зладзюганаў і іншых карупцыянераў, якіх і трэба садзіць, і вельмі шкада, бо свае ж, сукіны дзеці. Але ж і змагацца з карупцыяй трэба, бо Прэзідэнт сказаў, што карупцыйныя працэсы здольны разбурыць любую, самую дасканалую, сістэму — сацыяльную і эканамічную, і з'яўляюцца падставай для нарастання грамадскага пратэсту, чаго гэта ўлада вельмі баіцца на ўсіх узроўнях.***

***НА МЯСЦОВЫМ УЗРОЎНІ***

Трэнд карупцыйных злачынстваў у Беларусі, пачынаючы з 1989 г., калі было ўзбуджана толькі 112 спраў па фактах хабарніцтва, мае ўстойлівы характар штогадовага падвышэння. Ды толькі маштабы карупцыі зараз не тыя, нават у параўнанні з 1994 г. (500 спраў), калі да ўлады на хвалі барацьбы якраз з карумпаванасцю ўлады, і прыйшоў А. Лукашэнка. Праз двадцаць гадоў, у 2013 г., беларускія праваахоўнікі выявілі ўжо 1319 фактаў хабарніцтва, ці ў 2,6 разоў болей, чым на зары панавання "вертыкалі". За гэты прамежак часу красці "вертыкальшчыкі" навучыліся не горш за Карэйку, вядомага персанажа твораў Ільфа і Пятрова, а можа нават і пераўзышлі яго. Больш таго, чыноўнікі з цягам часу вынаходзяць шляхі прысабечвання дзяржаўных грошай у такіх напрамках, пра якія шараговы беларус ніколі не здагадаецца.

У Магілёве былы кіраўнік аддзела адукацыі гарвыканкама Я. Дуплеўскі пры саўдзеле са службовымі асобамі сярэдняй школы на працягу чатырох гадоў афармляўся па сумяшчальніцтве настаўнікам факультатыўных заняткаў на ўмовах працоўнай дамовы, але фактычна заняткі не праводзіў. Прычыніў гарадскому бюджэту страты на 22 млн. рублёў, што цягне на 7 гадоў турмы.

Некалькі іншыя маштабы крадзяжу ў прадпрымальнікаў. Толькі што завершана справа супраць дырэктара магілёўскага ТАА "Будінвест", які фактычна выкарыстаў мэтавы аванс на будаўніцтва жылога дома ў памеры 1,7 млрд. руб., пералічанага на рахунак яго прадпрыемства КУП "УКБ Шклоўскага райвыканкама, на свае патрэбы.

Былы сенатар-прадпрымальнік, дырэктар магілёўскага ЗАТ "Палітэкс" В. Кастагораў абвінавачваецца ў недаплаце падаткаў на суму аж 150 тыс. долараў ЗША. Больш таго, ім таксама цікавяцца расійскія праваахоўнікі, бо ён яшчэ, аказваецца, і грамадзянін Расіі, і мае кватэру за паўтара мільёна долараў у самой Маскве.




Крымінальныя справы супраць намеснікаў старшынь Магілёўскага і Бялыніцкага райвыканкамаў (Арцёмчыка і Ярашэнкі), генеральных дырэктараў"Магілёўдрэва", "Фандока" і "Крычаўцэменташыфера" (Усава, Майкава і Скоцкага), цэлай групоўкі раскрадальнікаў сродкаў Крычаўскага райспажыўсаюза гавораць аб нейкай эпідэміі крадзяжоў сярод кіраўнікоў "вертыкалі" і дзяржпрадпрыемстваў.У Магілёўскай вобласці таксама ўзбуджана 10 крымінальных спраў у адносінах да дэпутатаў мясцовых Саветаў 26-га і 27-га скліканняў. Пры гэтым складваецца ўражанне непазбежнасці пакарання за ўчыненне злачынстваў, што працуе на аўтарытэт улады і праваахоўных органаў, маўляў, недатыкальных у краіне няма.

Ды ці ўсё так добра ў барацьбе з карупцыяй на мясцовым узроўні, паспрабуем разабрацца. Усяго за 8 месяцаў 2014 года ў Магілёўскай вобласці ўзбуджана 146 карупцыйных спраў, арышта-





вана маёмасці на 2 мільярды рублёў — неблагі вынік на рэспубліканскім узроўні. У той жа час, толькі ў Шклоўскім раёне за першае паўгоддзе матэрыяльныя страты па карупцыйных справах склалі 2,1 млрд. руб., з якіх дабраахвотна вернута дзяржаве толькі 35,6 млн. руб. (1,7%), накладзены арышт на маёмасць абвінавачваных на 380 млн. руб. (18,1%). Ці ж гэта паказчыкі эфектыўнасці працы ў барацьбе з крыміналам?

Па-ранейшаму, першае месца па карумпаванасці ў вобласці займае сістэма аховы здароўя, на другім ідзе прамысловасць, далей з вялікім адрывам ідуць сельская гаспадарка, будаўніцтва і гандаль. Але ж, калі урачы бяруць хабар на ўзроўні 20-30 долараў, а ў турму ідуць максімум за нейкія там 300-500 долараў ЗША, то у будаўнікоў і гандляроў гэтыя сумы выклікаюць ці не ўсмешку: у круглянскай ПМК-266 адзін з кіраўнікоў прысабечыў 206 млн. руб., у Крычаве гандляры скралі мільярд руб., у Бабруйску пры правядзенні дзяржаўных закупак мясцовая службовая асоба стала багацей на 100 млн. руб. Дарэчы, мы пакуль не чулі аб судовых працэсах над кіраўнікамі сістэмы аховы здароўя і адукацыі за велічэзныя адкаты, якія бяруцца за прыдбанне медыцынскага і навучальнага абсталявання, і правядзенне капітальнага рамонта будынкаў.

Чаму ж крадуць чыноўнікі і кіраўнікі прадпрыемстваў ва ўмовах нарошчвання напалу барацьбы з карупцыяй? Міністр унутраных спраў І. Шуневіч лічыць, што ўся справа ва ўмовах, у якіх зараджаецца карупцыя. І дзе ж яна зараджаецца? Возьмем будаўніцтва — у 2013 г. КДК Магілёўскай вобласці прадухіліў завышэнне кошту будаўніцтва 101 аб'екта, фінансуемага з бюджэта на агульную суму 16,7 млрд. руб. Яшчэ 20,5 млрд. руб. "знайшлі" на будаўніцтве аб'ектаў дзяржпраграм. Не лепш справы ў ЖКГ вобласці: толькі прадухіленне аднясення на выдаткі звышнарматыўных страт у цеплавых сетках зберагло 3,7 млрд. руб. У АПК вобласці на закладцы пладоваягадных насаджэнняў неэфектыўна выкарыстаны 42 млрд. бюджэтных рублёў.

Галоўная ўмова для карупцыі, якая "аб'ядноўвае" розныя галіны эканомікі, адна — гэта дзяржаўная маёмасць, якую абслугоўваюць розныя кіруючыя ўстановы і незлічоныя безадказныя асобы. Для гэтай звязкі лішнімі з'яўляюцца дэмакратыя, незалежныя суды, недзяржаўныя СМІ і грамадскія аб'яднанні.

### *ДЭМАКРАТЫЯ І ЭКАНОМІКА*

Зараз Беларусі патрэбны рэальна дзеючыя законы па барацьбе з карупцыяй. А то, што ж гэта атрымліваецца — сёння чыноўнік пры пасадзе, раскрадае народную маёмасць, затрымліваецца праваахоўнікамі, піша прашэнне аб памілаванні Прэзідэнту, а потым атрымлівае неблагую пенсію. Характэрная асаблівасць для Беларусі — раскрадальнікі дзяржаўных грошай шукаюць паратунку ў галоўнага барацьбіта з карупцыяй!

Другая асаблівасць мясцовай практыкі барацьбы з карупцыяй — недавер гэтым самым барацьбітам з боку рэспубліканскіх улад. Напрыклад, у Шклове "мерапрыемства" па затрыманні намесніка старшыні райвыканкама праводзіў рэспубліканскі следчы камітэт. Дарэчы, справу да гэтага часу вядзе Мінск.

Яшчэ адна асаблівасць мясцовай карупцыі — кругавая парука мясцовых чыноўнікаў.Валаводзяць, круцяць справы гадамі, ды яшчэ прэзідэнта крайнім зробяць. Вось калі справа тычыцца праяўлення самастойнасці грамадзянамі, ці, не дай Бог, пападзе грамадзянін у лік апазіцыянераў — о, тады справы вырашаюцца хутка і вельмі прынцыпова.

Таксама асаблівасцю мясцовых карупцыйных спраў з'яўляецца вялікая разбежка ў памерах крадзяжоў. Калі чыноўнік "бярэ" мільярдамі (хабар, адкаты, "кватэрнае пытанне", падарункі), то шэраговы зладзюган ці хабарнік здавальняецца невялічкімі сумамі. Смешна, напрыклад, чытаць гнеўныя артыкулы аб хабары ўрачоў ў 20 даляраў за выдачу лістка непрацаздольнасці, хаця якраз хабарніцтвам шэраговых урачоў, працуючых у бальніцах, вельмі занепакоены беларусы. Тым не менш, выстаўляючы на паказ вынікі барацьбы з нячэснымі ўрачамі ды выкладчыкамі ВНУ, сапраўдныя маштабы карупцыі мясцовыя ўлады стараюцца не афішыраваць — парушаецца вера ў святасць "вертыкальшчыкаў". Дарэчы, беларускі народ усё роўна не вельмі верыць у альтруізм і іншыя высакародныя намеры айчынных рупліўцаў-"прыкарытнікаў".

Наступная асаблівасць — кругазварот былых асуджаных у "вертыкалі". Падобраму, дык з беларускіхуладных структур трэба вычышчаць уплывовых асоб с дзелавымі інтэрэсамі, патрабуючых злоужывання паўнамоцтвамі. Ды дзе там: не паспелі ў Шклове схлынуць жарсці па затрыманню намесніка старшыні райвыканкама за злоўжыванні на пасадзе, як зноў інфармацыйны бум — на яго месца прызначылі раней асуджанага былога старшыню райсавета М. Паўловіча (!). І дзе тут роля спадара Г. Лаўранкова, галоўнага прэзідэнцкага кантралёра па Магілёўскай вобласці, бо кадравыя перастаноўкі ўваходзяць у кола яго абавязкаў. Ці ўлада ўжо зусім меру згубіла ў гульнях з карупцыйнымі складнікамі? А можа гэтай уладзе некалі займацца карупцыяй і яна займаецца эканомікай? Ды не, бо той жа спадар Лаўранкоў на паседжанні аблвыканкама прызнаў, што эканамічная сітуацыя ў Магілёўскім рэгіёне пагаршаецца і неабходны апаратыўныя меры па яе выпраўленню.

Але найперш патрабуюцца змены на ўзроўні дзяржавы — без дэмакратыі гідру карупцыі не задушыць, а з тым і не падняць на больш высокі ўзровень дабрабыт беларусаў. Як прыклад: рост ВУП на душу насельніцтва (па парытэце пакупніцкай здольнасці) ў нашай дэмакратычнай суседкі Літвы вырас з 12 968 долараў ЗША у 2004 г. да 23 399 дол. ЗША у 2012 г., у яшчэ адной краіне Еўразвязу Польшчы – з 13 009 да 22 162, а ў Беларусі – з 7 589 да 15 592. Пры гэтым, Літва і Польшча не з'яўляюцца часткай еўразоны, так што ў іх яшчэ большыя перспектывы развіцця. А розніца паміж краінамі-суседкамі толькі ў розных адносінах да дэмакратыі. Паказальна, што Беларусь у свеце займае 123 месца па ўзроўню карумпаванасці, на дзясяткі месяцаў "апярэдзіўшы" Літву і Польшчу. Адзначым, што ў 2002 годзе Беларусь знаходзілась на 36 месцы.

Пры чым дэмакратыя да эканомікі? Прафесар цэнтра палітычных даследаванняў Мічыганскага ўніверсітэта Рональд Інглхарт, які займаецца маніторынгам амаль ста краін, упэўнены, што толькі прыярытэт закона стымулюе мадэрнізацыю, толькі ў дэмакратычнай краіне гарантавана абарона праў уласніка і інвестара. Прымерце гэта да беларускай рэчаіснасці.

У Беларусі казначэйская сістэма выканання бюджэта па даходах і выдатках (упраўленне дзяржаўнага казначэйства ўвайшло ў склад Галоўнага ўпраўлення Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь па Магілёўскай вобласці), якая павінна выключаць нямэтавае выкарыстанне бюджэтных сродкаў. Але ж у апошнія гады ў Шклоўскім раёне бум на крадзяжы якраз бюджэтных сродкаў — сума толькі выяўленых фактаў вымяраецца 60 млрд. рублямі.

У мінулым годзе і ў першым паўгоддзі 2014 года кантрольна-рэвізійнае ўпраўленне вярнула дзяржаве 12 млрд. рублёў. Зараз праз казначэйскую сістэму ў Магілёўскай вобласці фінансуецца 2 444 арганізацыі і ўстановы, ёй кантралюецца звыш 85 тысяч дамоўных абавязанняў атрымальнікаў бюджэтных сродкаў. Пры ўсёй звышнапружанасці працы кантралёраў паспрабуйце купіць аловак без дазволу — не атрымаецца, не прапусцяць. Але як жа тады было дазволена сродкі на суму ў 4,2 мільёна еўра на пакупку нецеляў праз Шклоўскае ўпраўленне сельскай гаспадаркі запусціць праз пасрэднікаў, дзе тыя грошы і сканалі? Не ўсё чэсна, выходзіць, і ў гэтай сістэме. Ды каб жа гэта быў адзіны выпадак.

Паволі ў Шклове забываюцца мінулагоднія карупцыйныя выкрунтасы — пазбег пакарання чарговы свавольнік с жылкамунгасу, які прысабечыў амаль паўмільярда рублёў, так і не дакапаліся, куды знікла станцыя сартыроўкі бытавых адыходаў, на якую з абласнога бюджэту яшчэ ў 2005 годзе патрацілі 40 млн. рублёў. Дарэчы, у сістэме ЖКГ РБ неправамерна патрацілі ў мінулым гаду 1 трыльён рублёў — а гэта дзесятая частка кошту ўсіх паслуг ЖКГ. Карацей, дзе ні капні, усюды пагаспадарыла касматая рука чыноўніка.

Усё часцей побач з чыноўнікамі Шклоўскага райвыканкама мы бачым святара мясцовай Спаса-Прэабражэнскай царквы, пакуль, праўда, без кадзіла. Можа гэта і ёсць шклоўскі асаблівы шлях у барацьбе з нячысцікамі з "вертыкалі"?! Дапамажы нам Бог, калі няма сумлення ў чыноўнікаў ад прыроды.



# ПРАВО НА ЗАЩИТУ ОТ ДОМАШНЕГО НАСИЛИЯ

Елена ПОЛЯКОВА

***В этом году в Беларуси вступил в силу Закон «Об основах деятельности по профилактике правонарушений». Одним из наиболее важных направлений применения данного закона является предупреждение насилия в семье.***




Закон даёт определение насилию в семье — «умышленные действия физического, психологического, сексуального характера члена семьи по отношению к другому члену семьи, нарушающие его права, свободы, законные интересы и причиняющие ему физические и (или) психические страдания». Принципиально новым в данном законе является введение в практику обеспечения безопасности пострадавших от домашнего насилия защитных предписаний.

Под защитным предписанием понимается установление гражданину, совершившему насилие в семье, ограничений на совершение определённых действий. Если домашний агрессор хотя бы раз в течение года получал официальное предупреждение за своё поведение в семье, то уже повторное нарушение даёт основание для вынесения ему защитного предписания со всеми вытекающими последствиями. Таким лицам запрещается общение с жертвой, в том числе по телефону и интернету, а также посещение жертвы и выяснение её местонахождения. Выносится защитное предписание на срок от трёх до тридцати суток.

При желании жертва семейного насилия может на этот период временно покинуть своё жилище. Но если пойти некуда, то закон предусматривает, что семейного скандалиста могут обязать покинуть на определённый срок общее жилое помещение, где проживает семья. В этом случае защитное предписание обязывает гражданина, совершившего насилие в семье, временно покинуть общий дом и налагает запрет распоряжаться общей совместной собственностью. При этом не играет роли, зарегистрирован официально брак или нет.

Чтобы требования закона соблюдались, местным органам власти поручено разработать соответствующие меры. В связи с этим Климовичский райисполком принял 6 ноября решение «О мерах по обеспечению местами временного пребывания граждан, в отношении которых вынесено защитное предписание» (опубликовано в газете «Родная ніва»). Согласно данному решению местом для обеспечения временного пребывания граждан, в отношении которых вынесено защитное предписание, определено жилое помещение, расположенное в Климовичах по улице Северной, дом 8, квартира 2. Жилое помещение предоставляется на возмездной основе.

Напоследок напомним, что обратиться за помощью, если вы подвергаетесь домашнему насилию, можно в органы внутренних дел (телефон 102) либо в Территориальный центр социального обслуживания населения вашего района.

# ЛЁСЫ ВАЛАСНЫХ ЦЭНТРАЎ

Алесь ЛАПО

***У 1777 г. Магілёўская губернія была падзелена на 12 паветаў. Сярод іншых вылучыўся і Клімавіцкі. У той час у яго склад уваходзілі толькі што пазбаўлены гарадскога статусу Крычаў і цэлы шэраг мястэчак: Шумячы, Касцюковічы, Хоцімск, Мілаславічы, Бялынкавічы, Родня і іншыя. Пазней Крычаў перайшоў у падпарадкаванне Чэрыкаўскага павета, а тэрыторыя Клімавіцкага павета была падзелена на валасці. Валаснымі цэнтрамі сталі ўсе пазначаныя мястэчкі, а таксама Машавое, Бярозкі, Забялышын, Ціманава, Хатовіж, Надзейкавічы і Загусціна. Паспрабуем праслядзіць лёс гэтых валасных цэнтраў да нашых часоў.***

Цэнтрамі валасцей звычайна станавіліся мястэчкі ці буйныя сёлы. Аднак часам такое прызначэнне тлумачылася выгаднай лакалізацыяй. Пазначаныя мястэчкі Клімавіцкага павета да канца існавання Расійскай імперыі заставаліся валаснымі цэнтрамі. Іх статус памяняўся толькі з прыходам бальшавіцкай улады. У БССР з 1924 па 1927 гг. усе яны (апроч Шумячаў, якія дзіўным чынам пасля першага ўзбуйнення БССР засталіся ў складзе РСФСР; і Родні, якая стала з тых часоў цэнтрам сельсавета) сталі раённымі цэнтрамі Калінінскай акругі. Мілаславічы і Бялынкавічы пазбавілі раённага статуса ў 1927 годзе, з тых часоў — гэта цэнтры сельсаветаў адпаведана Клімавіцкага і Касцюковіцкага раёнаў. Касцюковічы і Хоцімск дагэтуль застаюцца раённымі цэнтрамі Магілёўскай, а Шумячы — Смаленскай абласцей.

Бярозкі і Забялышын — цэнтры сельсаветаў Хоцімскага раёна, Ціманава валодае такім жа статусам ў Клімавіцкім раёне. Усе яны — найбуйнейшыя паселішчы сваіх адміністрацыйных раёнаў, аграгарадкі. Надзейкавічы на дадзены момант — цэнтр сельскага пасялення, муніцыпальнага аб'яднання Расійскай Федэрацыі, адпаведнага нашаму сельскаму савету.

Машавое — адносна жывая вёска Касцюковіцкага раёна. Пра Хатовіж і тое ўжо не скажаш: жыве там усяго 129 чалавек. Аднак адзіным былым валасным цэнтрам Клімавіцкага павета, якому пагражае знікненне ў самым блізкім часе з'яўляецца Загусціна. У гэтай вёсачцы, вядомай калісьці на ўсю Расійскую імперыю першым ваенным пасяленнем, дажываюць сёння апошнія жыхары.

# ШТО ЎЗМАЦНЯЕ ДЭКРЭТ №5?

Сяргей ПУЛЬША, Новы Час

***Дэкрэт кіраўніка дзяржавы аб узмацненні патрабаванняў да кіруючых кадраў атрымаўся якраз па показцы: «Паны б'юцца — у халопаў ілбы трашчаць». Узмацняе ён не адказнасць кіраўнікоў, а адказнасць працоўных.***




Згодна з дакументам, на кіраўнікоў ускладаецца персанальная адказнасць за забеспячэнне вытворча-тэхналагічнай, выканальніцкай і працоўнай дысцыпліны, належнае ўтрыманне будынкаў, памяшканняў і абсталявання, захаванне ўмоў працы работнікаў. За гэта кіраўнік будзе несці дысцыплінарную адказнасці аж да звальнення. У прынцыпе, яны за гэта былі адказныя і без дэкрэту. Узгадайце, хто адказны ў вашай арганізацыі за супрацьпажарную бяспеку? Адзін з кіраўнікоў, канешне ж.

Дэкрэт усталёўвае забароны і абмежаванні пры прызначэнні на кіруючыя пасады асоб, звольненых па дыскрэдытуючых абставінах. Забаронена прызначаць на пасады, уключаныя ў кадравыя рэестры кіраўніка дзяржавы, урада і выканкамаў усіх узроўняў асоб, звольненых па дыскрэдытуючых абставінах, на працягу пяці гадоў. Прызначэнне ж «датэрмінова» на адказную пасаду будзе ажыццяўляцца са згоды раённага, гарадскога выканкама, мясцовай адміністрацыі. Тыя, хто абмінуў працэдуру ўзгаднення, і пра гэта стала вядома, будзе падлягаць безумоўнаму звальненню з-за парушэння правілаў прыёму на працу.

Патрабаванні дэкрэту павінны распаўсюджвацца на работнікаў і кіраўнікоў як дзяржаўных, так і прыватных арганізацый.

А вось шараговым працоўным прысвечаная большая частка дэкрэту. У прыватнасці, кіраўнікі арганізацый атрымаюць права істотна змяняць умовы працы работніка ў сувязі з абгрунтаванымі вытворчымі, арганізацыйнымі або эканамічнымі прычынамі, папярэдзіўшы работніка не менш чым за 7 каляндарных дзён (у цяперашні час — месячны тэрмін).

За парушэнне дысцыпліны кіраўнік зможа дэпрэміраваць працоўных на тэрмін аж да дванаццаці месяцаў. Прымяняцца дэпрэміраванне будзе і ў дачыненні да ўжо прызначаных прэмій. Таксама кіраўнік зможа неадкладна адхіляць работнікаў ад працы і, галоўнае, не аплачваць гэты перыяд адхілення.

Кіраўнік атрымае права звальняць работнікаў за парушэнне дысцыпліны, якое пацягнула шкоду ў памеры, большым за тры месячныя заробкі па рэспубліцы (з паведамленнем прафсаюза). Магчымасць звальнення работніка па гэтай падставе з'яўляецца правам кіраўніка, а не яго абавязкам.

Кіраўнік арганізацыі зможа ўтрымліваць з зарплаты работніка ў кошт пакрыцця шкоды да трох яго сярэднямесячных заробкаў без падачы пазову ў суд (у цяперашні час — аднаго месячнага заробку).

Доктар юрыдычных навук, прафесар Міхаіл Пастухоў крытычна ацэньвае гэты дакумент. На ягонае меркаванне, гэта ні што іншае, як недапушчальнае ўмяшанне дзяржавы ў працоўныя адносіны. «Працоўныя адносіны — гэта, перш за ўсё, адносіны паміж наймальнікам, працадаўцам і працоўным. Дэкрэт жа істотна ўмешваецца ў гэтыя адносіны, што мне не вельмі зразумела», — адзначае Пастухоў.

«Калі ўвядзенне кароткатэрміновых кантрактаў можна было б хоць фармальна назваць у нейкай ступені законным і дапушчальным, то палажэнні гэтага дэкрэта пераходзяць разумную мяжу. Дэкрэт усталёўвае даволі жорсткую адказнасць нават за аднаразовае парушэнне працоўных абавязкаў. Калі раней работніку можна было зрабіць заўвагу, напрыклад, то зараз амаль любое парушэнне ёсць падставай для таго, каб выгнаць яго з працы», — лічыць Пастухоў.

«Працоўныя ператвараюцца ў прыгонных, якія павінны толькі працаваць, працаваць, і не скардзіцца. Выказванне любога незадавальнення, любое патрабаванне выканання сваіх правоў можа быць расцэненае як парушэнне працоўнай дысцыпліны і стаць падставаю для звальнення», — адзначае юрыст.

То бок, фактычна ўлады «падвялі базу» пад звальненне актывістаў незалежных прафсаюзаў, якіх раней звальнялі за «аднаразовыя парушэнні», але потым яны дамагаліся кампенсацыі і ўзнаўлення на працы праз суд.

Пастухоў тым жа часам адзначае, што і кіраўнікі становяцца закладнікамі гэтага дэкрэта. З-за таго, што іх адказнасць за парушэнні на прадпрыемстве занадта размытая і не канкрэтызаваная. «Кіраўнікі, згодна з дакументам, нясуць агульную «персанальную» адказнасць. То бок, складана сказаць, што гэта за адказнасць. Фактычна, яны адказваюць за ўсё: можна за любы праступак падначаленага прыцягнуць кіраўніка да адказнасці: ад выпіўкі падначаленых на працоўным месцы да невыканання прагнозных паказчыкаў. Можна прызнаць кіраўніка вінаватым ва ўсім», — дадае Пастухоў.

«Шчыра кажучы, у дэкрэце ігнаруюцца прынцыпы працоўнага заканадаўства краіны і стандарты Міжнароднай арганізацыі працы ў галіне правоў працоўных», — заключае юрыст.

Карацей, хацелі, як лепш — атрымалася, як заўсёды. Замест узмацнення адказнасці кіраўнікоў мы атрымалі чарговыя абмежаванні правоў працоўных. Чаго толькі вартае звальненне работніка без узгаднення, а проста «з паведамленнем» прафсаюза. Адзінае, на што можна спадзявацца, — што жорсткасць законаў у нашай краіне кампенсуецца неабавязковасцю іх выканання.





# В БЕЛАРУСИ ЗАКРОЮТ БОЛЕЕ 30 ВОЕНКОМАТОВ

***Депутаты верхней палаты парламента одобрили внесение изменений и дополнений в законы по вопросам воинской службы. В частности, планируется сократить 37 военкоматов в Беларуси.***

Сейчас есть 34 военкомата, которые находятся в районах, где проживает менее 4 тыс. военнообязанных. Однако на содержание таких военкоматов тратится столько же средств, что и на комиссариаты в районах, где намного больше призывников.

Министр обороны уточнил, что планируется сократить число военкоматов с 128 до 91. Вместо упраздненных комиссариатов появятся обособленные подразделения, передает БЕЛТА.

# УРОКИ ЖИЗНЕННОЙ МУДРОСТИ И ОСТРОУМИЯ ОТ ВЕЛИКОГО КОМБИНАТОРА ОСТАПА БЕНДЕРА

**** Может быть, вам дать ещё ключ от квартиры, где деньги лежат?***

**** Я хочу вас спросить, как художник художника: вы рисовать умеете?***

**** Финансовая пропасть — самая глубокая из всех пропастей, в неё можно падать всю жизнь.***

**** Он любил и страдал. Он любил деньги и страдал от их недостатка.***

**** Напился так, что уже мог творить различные мелкие чудеса.***

**** Закат был чистый, наивный, будто его нарисовала провинциальная барышня задолго до того, как в голову ей пришли первые, страшные мысли о мужчинах.***

**** У нас хотя и не Париж, но милости просим к нашему шалашу.***

**** Бензин ваш — идеи наши.***

**** Интересный вы человек! Всё у вас в порядке. Удивительно, с таким счастьем — и на свободе!***

**** Вы не пьете, не курите, девушками не увлекаетесь… Зачем Вам деньги? Вы же не умеете их тратить.***

**** Лёд тронулся, господа присяжные заседатели, лёд тронулся.***

**** Командовать парадом буду я!***




# У ПОЛЬШЧЫ АБВІНАВАЧВАЕЦЦА БЫЛЫ АМАПАВЕЦ

***Яму пагражае 10 гадоў турмы за злачынствы камуністычных часоў, інфармуе radyjo.net.***

Абвінавачанне падрыхтаваў Інстытут нацыянальнай памяці. 67-гадовы Антоні М. з Каліша, былы міліцыянт, абвінавачваецца ў так званым "камуністычным злачынстве". Яму інкрымінуецца адзін эпізод з 1971 года. Міліцыянт абвінавачваецца ў жорсткім збіцці грамадскага актывіста за сатырычныя песні пра лідараў СССР і ПНР. У выніку збіцця актывіст Лешак Г. стаў калекам.

Абвінавачаны не прызнаў сваёй віны. Яму пагражае 10 гадоў турмы за злачынствы супраць Польскага народа. Працэс будзе разглядацца ў судзе ў Лодзі.

Гэта не першы падобны працэс ў сучасная Польшчы. Нядаўна суд асудзіў на 3 гады турмы былога следчага камуністычнай Службы бяспекі за катаванні ў 1951–1952 гадах моладзі з патрыятычнай арганізацыі "Арляты".

## *МИНУТКА ЮМОРА*

***Чтобы утром вовремя вставать, ставить будильник надо не на час раньше, а на шкаф!!!***

***— Специалисты говорят, что наш народ стал жить лучше.***
***— А люди утверждают, что ничего не ощущают.***
***— Но ведь они же не специалисты...***

***Деньги надо хранить в рублях. Я вот спрятал деньги в куче рублей и спокоен! Там уж точно никто искать не будет.***

# ЗВЯРНУЦЬ УВАГУ!!!

У інтэрнэце пачала дзейнічаць КЛІМАВІЦКАЯ СТАРОНКА, якую размясціла сацыяльная сетка Укантакце. Гэта — Суполка актуальных гарадскіх навін, Суполка тых, хто любіць родны горад Клімавічы. На старонцы шмат фатаграфій, навіны, падзеі, спасылкі на цікавыя сайты.

Далучайцеся, супрацоўнічайце, рэкамендуйце сваім знаёмым!

Адрас КЛІМАВІЦКАЙ СТАРОНКІ - vk.com/klimavichy

## *ІНТЭРНЭТ-БІБЛІЯТЭКА KAMUNIKAT.ORG: КНІГІ, ГАЗЕТЫ, ЧАСОПІСЫ, АЎДЫЁ, ВІДЭА*

Праект “Беларуская інтэрнэт-бібліятэка Kamunikat.org”, які рэалізуе Беларускае гістарычнае таварыства, існуе з 2000 году і арыентаваны на збор незалежных беларускіх выданняў. На сайце www.kamunikat.org можна знайсці кнігі, газеты, часопісы, аўдыё і відэа. А ў раздзеле “Перыёдыка” знаходзяцца ўсе нумары “Клімавіцкай Інфа-Панарамы” за 2012, 2013 і 2014 гг.



kamunikat
Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка



КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

*Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь*
*Адказны за выпуск: Аржанцаў Сяргей Юр’евіч*
*Адрас: Клімавічы, вул. Леніна, д. 27а, кв.15.*
*Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў*
*Распаўсюджваецца бясплатна*